Інфармацыйны бюлетэнь • № 3-4/98 •

# Каталіцкія НАВІНЫ

ВЫДАННЕ
МІНСКА-МАГІЛЁЎСКАЙ
АРХІДЫЯЦЭЗІІ
РЫМА-КАТАЛІЦКАГА
КАСЦЁЛА



## Прымірэнне — шанец для Афрыкі і задача Касцёла



**Ян Павел II наведаў Нігерыю**

Папа выразна выказаўся пра неабходнасць захоўваць правы чалавека ў краіне, вярнуцца да дэмакратычнай формы кіравання, а таксама заклікаў да еднасці паміж мусульманскай і хрысціянскай абшчынамі ў Нігерыі.

21-23 сакавіка адбылося апостальскае падарожжа Яна Паўла II у Нігерыю.

*Я прыехаў да вас як сябар, як той, хто глыбока заклапочаны будучыняй вашай краіны і ўсёй Афрыкі,* – сказаў Ян Павел II у аэрапорце Абуі, сталіцы Нігерыі.

У прывітальным слове Святы Айцец выказаў радасць ад візіта ў гэту благаславёную зямлю і адзначыў, што галоўнай прычынай яго прыезду з'яўляецца святкаванне разам з каталіцкай супольнасцю краіны беатыфікацыі айца Кіпрыяна Міхала Івэна Танзі. Папа падкрэсліў, што гэтая беатыфікацыя дадае гонару ўсяму нігерыйскаму народу. *Ён і ўсе тыя, хто цалкам прысвячае сваё жыццё служэнню іншым, паказваюць шлях, якім нігерыйцы павінны ісці да светлай будучыні сваёй краіны,* – сказаў Святы Айцец.

**Працяг на с. 16**

**У нумары:**









*ПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАННЕ НА ВЯЛІКДЗЕНЬ* 1998г.
**Яго Эмінэнцыі Кардынала Казіміра Свёнтка,**
Арцыбіскупа, Мітрапаліта Мінска-Магілёўскага

# Евангельскія сведкі Уваскрослага Хрыста

*І сказаў ім (г.зн. Апосталам): Так напісана і так трэба было цярпець Хрысту і ўваскрэснуць з памерлых на трэці дзень, /.../ Вы ж сведкі гэтага".*
*(пар. Лк 24,46-48).*

У Велікодныя святы Касцёл з усёй ўрачыстасцю і таксама з перакананнем сцвярджае факт Змёртвыхпаўстання Езуса Хрыста, прыводзячы сведчанні відавочцаў, дакладна і падрабязна запісаных чатырма евангелістамі, якія з'яўляюцца сапраўднымі і бясспрэчнымі доказамі гэтай фундаментальнай догмы нашай хрысціянскай веры.

Перад тым, як пяройдзем да падрабязнага абмеркавання гэтых евангельскіх сведчанняў аб Змёртвыхпаўстанні Езуса Хрыста, прыгадаем, што сталася з Яго целам, укрыжаваным на Галгофе. Чатыры евангелісты пішуць аб гэтым адназначна. Працытуем св. Марка: "І /Юзэф з Арыматэі/, купіўшы сіндон ды зняўшы Езуса, абвіў сіндонам і палажыў Яго ў магілу, што была высечана ў скале, ды прываліў камень да дзвярэй магілы"(пар. Мк 15, 46). А святы Мацвей дадае: "Яны / архірэі і фарысеі/ пайшлі і паставілі каля магілы варту і прылажылі да каменя пячаць". (пар. Мц 27,66).

Так расправіліся з цесляром з Назарэту, які называў сябе Божым Сынам: укрыжавалі Яго, паставілі варту каля грабніцы з Яго целам і, заспакоеныя, маглі працягваць сваю старазаконную справу. Мінае трагічная пятніца, мінае субота і нічога не адбываецца...

Але вось пасля шабату, на досвітку першага дня тыдня грабніца, у якой было пакладзена цела Езуса, аказалася пустою. Аб гэтым сведчаць евангелісты, апісваючы наведванне жанчын і з'яўленне анёлаў. Паслухаем:

Святы Мацвей: "што вы шукаеце ўкрыжаванага Езуса. Яго няма тут: Ён уваскрос, як і сказаў. Хадзіце, паглядзіце месца, дзе ляжаў Пан" (пар. Мц 28,5-6).

Святы Марк: "Не бойцеся! Шукаеце Езуса Назарэя, распятага на крыжы? Ён уваскрос; Яго няма тут. Вось месца, дзе палажылі Яго" (пар. Мк 16,6).

Святы Лука: "ведаю, што вы шукаеце жывога сярод памерлых? Яго няма тут; Ён уваскрос" (пар. Лк 24,5-6).

Святы Ян: "У першы ж дзень тыдня Марыя Магдалена прыходзіць раніцай да магілы і бачыць, што камень ад магілы адвалены /.../,– сказала пра гэта апосталам Пятру і Яну, якія пабеглі да магілы,– Сымон Пётр уваходзіць у магілу ды бачыць толькі адну палатніну і хустку, што была на галаве Яго, ды не разам з палатнінай, але асобна скручаную на другім месцы. Тады ўвайшоў і другі вучань, што раней прыйшоў да магілы, і ўбачыў і не паверыў" (пар. Ян 20,1,6-8).

Гэта евангельскія сведчанні аб пустой грабніцы з пакінутымі ў ёй палатнінай і хусткай з галавы, і аб з'яўленні анёлаў. Але жанчыны сталі сведкамі не толькі пустой магілы і з'яўлення анёлаў. Гэтага было б недастаткова для таго, каб сцвердзіць факт Змёртвыхпаўстання Езуса. Ды і сама Марыя Магдалена, бачачы пустую грабніцу, не верыла ў Змёртвыхпаўстанне Езуса, бо казала: "Забралі Пана з магілы і не ведаем, дзе паклалі... Пане Божа! калі Ты вынес Яго, скажы мне, дзе паклаў Ты Яго, і я вазьму Яго. (пар. Ян 20,13.15).

А ўстрывожаныя пустою грабніцаю архірэі, падкупілі жаўнераў варты, каб распавядалі ўсюды, што: "вучні Яго, прыйшоўшы ўначы, укралі Яго, калі мы спалі" (пар. Мц 28,13). Некаторыя жанчыны, акрамя пустой грабніцы і аб'яўлення анёлаў, першымі атрымалі ласку бачыць Змёртвыхпаўсталага Хрыста: "Езус спаткаў іх і сказаў: "Радуйцеся!" І яны, падышоўшы, абнялі ногі Яго і пакланіліся" (пар. Мц 28.9).

Марыя Магдалена "стаяла каля грабніцы і плакала, /.../ азірнулася назад і ўбачыла, што стаіць Езус, але не пазнала Яго /.../ Езус кажа ёй: Марыя! Яна, азірнуўшыся, кажа Яму: "Раввуні!" - г. зн. Вучыцель! (пар. Ян 20,11,14,16).

Аднак гэтым сведчанням жанчын апосталы не хацелі верыць. Калі Марыя Магдалена паведаміла апосталам, што бачыла Змёртвыхпаўсталага Езуса, "яны, аднак, пачуўшы, што Ён жыве і быў бачаны ёю, не паверылі" (пар. Мц 16,11). Калі жанчыны расказвалі апосталам пра Уваскрослага Хрыста, "здаліся ім словы іх пустымі, і не паверылі ім" (пар. Лк24,11).

Пасля першых сведчанняў жанчын, неабходнымі былі сведчанні саміх Апосталаў. Ва ўступе да Дзеяў Апостальскіх чытаем: "прад імі /г. зн. апосталамі/ з'явіўся жывы пасля мукаў Сваіх на працягу сарака дзён". (пар. Дз 1,3).

А ў лісце да Карынцянаў св. Павел піша: "... Ён быў пахаваны і ўваскрос на трэці дзень, паводле Пісання, і ... з'явіўся Кефасу, пасля ж дванаццацём; пасля з'явіўся болей, чым пяцістам братам адразу, з якіх большая частка й дагэтуль жывуць, некаторыя ж паўміралі; пасля з'явіўся Якубу, дый усім апосталам, а пасля ўсіх з'явіўся і мне" (пар. 1Кар 15,4-8).

Слушным і карысным, прынамсі, будзе прыгадаць найбольш яскравыя сведчанні апосталаў аб Уваскрослым Хрысце, кіруючыся словамі св. Пятра: "вось Яго Бог ускрасіў, вызваліўшы з мукаў смерці, бо ж немагчыма было, каб яна панавала над ім (пар. Дз 2, 24,32).

Да двух вучняў, якія вярталіся пасля смерці Езуса з Ерузалема ў Эмаус, далучыўся Хрыстус, Якога яны не пазналі. Убачыўшы іх смутак, Ён растлумачыў ім неабходнасць пакутаў і смерці Месіі. Запрошаны ў дом на вячэру, "калі Ён сядзеў за сталом з імі, то, ўзяўшы хлеб, благаславіў, паламаў і падаў ім. І тады раскрыліся ў іх вочы, і яны пазналі Яго; але Ён стаўся нябачным дя іх. / .../ І, устаўшы ў той жа час, вярнуліся ў Ерузалем і знайшлі разам адзінаццаць апосталаў і тых, што былі з імі, тых, што гаварылі: Пан сапраўды ўваскрос і з'явіўся Сымону. І яны расказвалі, што здарылася ў дарозе, і як пазналі Яго пры ламанні хлеба" (пар. Лк 24,30-31, 33-35).

"Калі ж яны гэтак гаварылі, Сам Езус стаў сярод іх і сказаў ім: мір вам! Яны, здумеўшыся і спалохаўшыся, падумалі, што бачаць духа; але Ён сказаў ім: чаго здуме-

лися? і чаму такія думкі ўваходзяць у сэрцы вашыя? Паглядзіце на рукі Мае і на ногі Мае: гэта Я Сам; дакраніцеся да Мяне і разгледзьце, бо дух цела і касцей не мае, што, як бачыце, Я маю. І, сказаўшы гэтае, паказаў ім рукі і ногі. /.../ Ён сказаў ім: ці ёсць у вас тут якая ежа? Яны падалі Яму кавалак печанай рыбы і сотавага мёду. І, узяўшы, еў перад імі" (пар. Лк 24,36-40; 42-43).

І яшчэ адно сведчанне, якое можна назваць сведчаннем нявернага Тамаша. Вечарам у першы дзень тыдня, калі з'явіўся Змёртвыхпаўсталы Езус, у доме, дзе прабывалі вучні, не было апостала Тамаша. Калі вучні расказвалі яму, што бачылі Езуса, ён адказаў: "калі не ўбачу на руках Яго ранаў ад цвікоў, і не ўкладу рукі мае ў бок Яго, не паверу." І праз восем дзён ізноў былі ў доме вучні Яго і Тамаш з імі. Езус прайшоў праз зачыненыя дзверы, стаў пасярэдзіне і сказаў: "Мір вам!" Пасля звярнуўся да Тамаша: "паверыў, бо бачыў Мяне; шчаслівыя тыя, што не бачылі і паверылі " (пар. Ян 20,25-29).

О як жа гэтая нявернасць Тамаша паспрыяла такому каштоўнаму сведчанню аб Уваскрослым Езусе Хрысце!

Такім чынам, мы прыгадалі евангельскія сведчанні відавочцаў Змёртвыхпаўстання Хрыста Пана. І жанчыны, і апосталы непасрэдна спазналі здарэнне, якое пераўзыходзіла ўсялякія законы прыроды, спазналі з дапамогай адчуванняў: зроку, слыху, дотыку. Гэта ўжо была не вера, а пазнанне і ўпэўненасць у сапраўдным Змёртвыхпаўстанні Езуса Хрыста. Апосталы пайшлі ў свет як відавочныя сведкі Змёртвыхпаўстання і за абвяшчэнне праўды аб замучаным Уваскрослым Хрысце аддалі сваё жыццё. А пасля іх Касцёл прыняў на сябе абавязак сведчыць аб Уваскрослым Хрысце і выконвае гэтую місію ўжо дваццаць стагоддзяў і будзе выконваць яе да канца свету. Неабходнасць сведчання аб Змёртвыхпаўсталым Езусе Хрысце заўсёды актуальная і абавязвае ўсіх, хто ў Яго верыць.

Мы, католікі Беларусі, на працягу доўгага перыяду цяжкіх праследаў сведчылі аб Уваскрослым Езусе Хрысце нашай нязломнай вераю ў Бога і непахіснай вернасцю Касцёлу. Цяпер, калі наступіла рэлігійная свабода, мы тым больш павінны быць нястомнымі сведкамі Змёртвыхпаўсталага Хрыста, адраджаючы ва ўсёй паўнаце веру і рэлігійнае жыццё ў нашых дыяцэзіях, парафіях і сем'ях. Умацаваннем і падтрымкаю ў сведчанні аб Уваскрослым Езусе Хрысце служаць Яго словы, сказаныя Апосталу Тамашу, а праз яго адрасаваныя і нам:

«Благаслаўлёныя тыя, што не бачылі, а паверылі» (пар.Ян 20,29).

† Kazimierz Card. Świątek

P.S. З нагоды Велікодных Святаў усім святарам, законніцам, законнікам і вернікам усёй Беларусі перадаю ад усяго сэрца самыя цёплыя пажаданні:

Няхай Езус Хрыстус, Пераможца смерці, адорвае вас сваёю ласкаю, якая дае сілы перамагаць зло і чыніць дабро, што з'яўляецца гарантыяй уваскрашэння да збаўчага вечнага жыцця.

Хрыстус змёртвыхпаўстаў!

Сапраўды змёртвыхпаўстаў!

---

## *LIST PASTERSKI NA WIELKANOC 1998*

# Ewangeliczni świadkowie Chrystusa Pana Zmartwychwstałego

*"I rzekł do nich (t.j. do Apostołów): Tak jest napisane: Mesjasz będzie cierpiał i trzeciego dnia zmartwychwstanie; (...) Wy jesteście świadkami tego."*

*(Łk 24,46.48)*

W święta Wielkanocne Kościół w jak najbardziej uroczysty, a zarazem przekonywujący sposób stwierdza fakt Zmartwychwstania Jezusa Chrystusa, podając świadectwa naocznych świadków, dokładnie i szczegółowo zapisane przez czterech ewangelistów, a stanowiące wiarygodne, oczywiste i niezaprzeczalne dowody tego fundamentalnego dogmatu naszej chrześcijańskiej wiary.

Zanim przejdziemy do szczegółowego omówienia tych świadectw ewangelicznych o Zmartwychwstaniu Jezusa Chrystusa, przypomnijmy, co zrobiono z Jego ciałem uśmierconym na krzyżu, na Golgocie. Czterej ewangeliści piszą o tym jednoznacznie. Zacytujmy św.Marka: "Ten (t.j. Józef z Arymatei) kupił płótno, zdjął Jezusa (z krzyża), owinął w płótno i złożył w grobie, który wykuty był w skale. Przed wejściem do grobu zatoczył kamień." (Mk 15, 46). A św. Mateusz dodaje: "Oni (t.j. arcykapłanie i faryzeusze) poszli i zabezpieczyli grób opieczętowując kamień i stawiając straż." (Mt 27, 66).

I tak rozprawili się z cieślą z Nazaretu, który mienił się być Synem Bożym: ukrzyżowali Go, zabezpieczyli grób z Jego ciałem i uspokojeni mogli przedłużać swe dzieło starozakonne. Mija tragiczny piątek, mija dzień szabatni i nic się nie dzieje...

Ale oto po upływie szabatu, wczesnym rankiem w pierwszy dzień tygodnia grób, w którym złożone było ciało Jezusa, okazał się pustym. Świadczą o tym ewangeliści, opisując nawiedzenie niewiast i widzenie Aniołów. Posłuchajmy:

Św. Mateusz: "wiem, że szukacie Jezusa Ukrzyżowanego. Nie ma Go tu, bo zmartwychwstał, jak powiedział. Chodźcie, zobaczcie miejsce gdzie leżał" (Mt 28, 5-6).

Św. Marek:"Nie bójcie się. Szukacie Jezusa z Nazaretu, ukrzyżowanego; powstał, nie ma Go tu. Oto miejsce, gdzie Go złożyli" (Mk 16, 6).

Św. Łukasz: "Dlaczego szukacie żyjącego wśród umarłych? Nie ma Go tutaj; zmartwychwstał" (Łk 24, 5-6).

Św. Jan: "A pierwszego dnia po szabacie, wczesnym rankiem, (...) Maria Magdalena udała się do grobu i zobaczyła kamień odsunięty od grobu (...) – powiadomiła Apostołów Piotra i Jana, którzy pobiegli do grobu. Szymon Piotr wszedł do wnętrza grobu i ujrzał leżące płótna oraz chustę, która była na Jego głowie, leżącą nie razem z płótnami, ale oddzielnie zwinięta na jednym miejscu. Wtedy wszedł do wnętrza także i ów drugi uczeń (...) Ujrzał i uwierzył" (J 20, 1. 6-8).

Oto świadectwa ewangeliczne o pustym grobie z pozostawionymi płótnami i chustką z głowy i o widzeniach

Aniołów. Ale niewiasty stały się świadkami nie tylko pustego grobu i widzenia Aniołów. Tego byłoby za mało dla stwierdzenia Zmartwychwstania Jezusa. Wszak sama Maria Magdalena wobec pustego grobu nie dopuszcza możliwości Zmartwychwstania Chrystusa, bo mówi:

"Zabrano Pana z grobu i nie wiemy, gdzie Go położono (...) Panie, jeśli ty Go przeniosłeś, powiedz mi, gdzie Go położyłeś, a ja Go wezmę" (J 20, 13.15).

A zaniepokojeni arcykapłani pustym grobem przekupili żołnierzy ze straży, by rozgłaszali tak:

"Jego uczniowie przyszli w nocy i wykradli Go, gdyśmy spali" (Mt 28, 1).

Niektóre z niewiast oprócz ujrzenia pustego grobu i widzenia Aniołów pierwsze dostąpiły łaski spotkania z Chrystusem Zmartwychwstałym: "A oto Jezus stanął przed nimi i rzekł: "Witajcie". One podeszły do Niego, objęły Go za nogi i oddały Mu pokłon" (Mt 28, 9).

Maria Magdalena "stała przed grobem płacząc (...) odwróciła się i ujrzała Jezusa, ale nie wiedziała, że to Jezus (...) Jezus rzekł do niej: "Mario!". A ona obróciwszy się powiedziała do Niego po hebrajsku: "Rabbuni", to znaczy: Nauczycielu" (J 20, 11.14.16).

Jednak tym świadectwom niewiast Apostołowie nie chcieli wierzyć. Kiedy Maria Magdalena oznajmiła Apostołom, że widziała Jezusa Zmartwychwstałego, "ci jednak słysząc, że żyje i że ona go widziała, nie chcieli wierzyć" (Mk 16,11). Kiedy niewiasty opowiadały Apostołom o Zmartwychwstałym Chrystusie, "słowa te wydały im się czczą gadaniną i nie dali im wiary" (Łk 24, 11).

Po pierwszych świadectwach niewiast, konieczne były świadectwa samych Apostołów. W Prologu Dziejów Apostolskich czytamy: "Im też (t.j. Apostołom) po swojej męce dał wiele dowodów, że żyje: ukazywał się im przez czterdzieści dni" (Dz 1, 3).

A w liście do Koryntian św. Paweł pisze, że "zmartwychwstał trzeciego dnia, zgodnie z Pismem, i że ukazał się Kefasowi, a potem Dwunastu, później zjawił się więcej niż pięciuset braciom równocześnie; większość z nich żyje dotąd, niektórzy zaś pomarli. Potem ukazał się Jakubowi, później wszystkim Apostołom. W końcu już po wszystkich, ukazał się także i mnie" (1Kor 15, 4-8).

Słusznym i pożytecznym jest przynajmniej znaczniej wymowne świadectwa Apostołów o Zmartwychwstałym Chrystusie omówić bardziej szczegółowo w myśl wypowiedzi św. Piotra:

"Lecz Bóg wskrzesił Go, zerwawszy więzy śmierci, gdyż niemożliwe było, aby ona panowała nad Nim (...) a my wszyscy jesteśmy tego świadkami" (Dz 2, 24.32).

Do dwóch uczniów wracających po śmierci Jezusa z Jerozolimy do Emaus dołączył się nierozpoznany przez nich Jezus i widząc ich smutek wyjaśniał potrzebę cierpień i śmierci Mesjasza. Zaproszony do domu na posiłek "gdy zajął z nimi miejsce u stołu, wziął chleb, odmówił błogosławieństwo, połamał go i dawał im. Wtedy oczy im się otworzyły i poznali Go, lecz On zniknął im z oczu. (...) W tej samej godzinie wybrali się i wrócili do Jerozolimy. Tam zastali zebranych Jedenastu i innych z nimi, którzy im oznajmili: "Pan rzeczywiście zmartwychwstał i ukazał się Szymonowi". Oni również opowiadali, co ich spotkało w drodze, i jak Go poznali przy łamaniu chleba" (Łk 24, 30-31. 33-35).

"A gdy rozmawiali o tym, On sam stanął pośród nich i rzekł do nich: "Pokój wam!" Zatrwożonym i wylękłym zdawało się, że widzą ducha. Lecz On rzekł do nich: "Czemu jesteście zmieszani i dlaczego wątpliwości budzą się w waszych sercach? Popatrzcie na moje ręce i nogi: to Ja jestem. Dotknijcie Mnie i przekonajcie się: duch nie ma ciała ani kości, jak widzicie, że Ja mam." Przy tych słowach pokazał im swoje ręce i nogi (...) "Macie tu coś do jedzenia?" Oni podali Mu kawałek pieczonej ryby. Wziął i jadł wobec nich" (Łk 24, 36-40. 42-43).

I jeszcze jedno świadectwo, które można nazwać świadectwem niewiernego Tomasza. Przy zjawieniu się Zmartwychwstałego Jezusa wieczorem pierwszego dnia tygodnia w domu, gdzie przebywali uczniowie, nie było Tomasza Apostoła. Gdy uczniowie opowiadali mu, że widzieli Jezusa, on rzekł: "Jeżeli na rękach Jego nie zobaczę śladu gwoździ i nie włożę ręki mojej do boku Jego, nie uwierzę." A po ośmiu dniach, kiedy uczniowie Jego byli znowu wewnątrz (domu) i Tomasz z nimi, Jezus przyszedł mimo drzwi zamkniętych, stanął pośrodku i rzekł: "Pokój wam!". Następnie rzekł do Tomasza: "Podnieś tutaj swoj palec i zobacz moje ręce. Podnieś rękę i włóż (ją) do mego boku, i nie bądź niedowiarkiem, lech wierzącym." Tomasz mu odpowiedział: "Pan mój i Bóg mój!" Powiedział Jezus: "Uwierzyłeś dlatego, ponieważ mnie ujrzałeś? Błogosławieni, którzy nie widzieli, a uwierzyli." (J 20, 25-29).

O jakże ta niewierność Tomasza przyczyniła się do ukazania cenniejszego świadectwa o Zmartwychwstałym Jezusie Chrystusie!

I tak przypomnieliśmy świadectwa ewangeliczne naocznych świadków Zmartwychwstania Chrystusa Pana. I niewiasty i Apostołowie poznali to przewyższające wszelkie prawo natury zdarzenie w sposób bezpośredni, za pomocą zmysłów: wzroku, słuchu, dotyku. To już nie była wiara, ale poznanie i pewność co do prawdziwego Zmartwychwstania Jezusa Chrystusa. Apostołowie poszli w świat jako naoczni świadkowie Zmartwychwstałego Jezusa i za głoszenie tej prawdy o Chrystusie umęczonym i Zmartwychwstałym oddali swe życie. A po nich Kościół przejął obowiązek świadczenia o Chrystusie Zmartwychwstałym i wypełnia tę misję dwadzieścia wieków i będzie ją wypełniać do końca świata. Potrzeba dawania świadectwa o Jezusie Chrystusie Zmartwychwstałym jest ciągle aktualna i obowiązująca wszystkich jego wyznawców.

My katolicy na Białorusi w ciągu długiego okresu ciężkich prześladowań świadczyliśmy o Jezusie Chrystusie Zmartwychwstałym przez naszą niezłomną wiarę w Boga i niezachwianą wierność Kościołowi. Teraz, gdy nastała wolność religijna, tym bardziej powinniśmy być gorliwymi świadkami Jezusa Chrystusa Zmartwychwstałego przez pełne odrodzenie wiary i życia religijnego w naszych diecezjach, parafiach i rodzinach.

Umocnieniem i podtrzymaniem w pełnieniu świadczenia o Jezusie Chrystusie Zmartwychwstałym są Jego słowa wypowiedziane do Apostoła Tomasza, a przez niego skierowane do nas:

"Błogosławieni, którzy nie widzieli, a uwierzyli" (J 20, 29).

✝ Kazimierz Card. Świątek

***P.S.** Z okazji Świąt Wielkanocnych wszystkim Kapłanom, Zakonnikom, Zakonnicom i Diecezjanom Archidiecezji mińsko-mohylewskiej i Diecezji pińskiej składam najszczersze, z głębi serca płynące życzenia:*

*Oby Jezus Chrystus – Zwycięzca śmierci obdarzył Was swoją łaską, która da moc przezwyciężania zła i nabywania dobra, co stanowi rękojmię zmartwychwstania do zbawiennego życia wiecznego.*

*Chrystus zmartwychwstał!*
*Prawdziwie zmartwychwstał!*

# ПАКЛІКАННЕ І ПАСЛАННІЦТВА СВЕЦКІХ ВЕРНІКАЎ У КАСЦЁЛЕ І Ў СВЕЦЕ



**«Ідзіце і вы ў мой вінаграднік»**
*(пар.Мц 20,3-4)*

*«Гэты заклік, абвешчаны Хрыстом, датычыць не толькі біскупаў, святароў, законнікаў і законніц, але таксама ўсіх свецкіх, якіх Бог прызывае асабіста, даяраючы ім выконваць місію ў Касцёле і ў свеце»*
***Ян Павел II***
***Christifideles laici, n. 2***

V

[...]

Верныя хрысціяне, праз Хрост уцелаўлёныя ў Хрыста, якія адпаведна сваім спосабам сталі ўдзельнікамі святарскай, прароцка-настаўніцкай і валадарскай службы Хрыстовай, са свайго боку рэалізуюць уласцівае ўсяму хрысціянскаму люду пасланніцтва ў Касцёле і ў свеце (пар. КК 31 і ChL 9). Іх заданнем па ўласцівым ім прызванні з'яўляецца пошук Валадарства Божага, удзел у асвячэнні свету і сведчанне іншым пра Хрыста, рэалізацыя усіх дачасных спраў з волі і дзеля славы Стварыцеля і Адкупіцеля (пар. КК 31). [...]

Для рэалізацыі пасланніцтва патрэбна вера, г.зн. патрэбны адказ на словы Духа Святога для нашых часоў. Наша вера павінна вывучацца, умацоўвацца і паглыбляцца, каб яна стала асновай нашага жыцця і святлом сумлення. [...]

•

Сёння становяцца відавочнымі новыя выпрабаванні для нашай веры, маральнасці і нашых характараў. Гэтую пагрозу можна перамагчы маральнай сілай, якая абапіраецца на добрасумленна пастаўленыя мэты, згодныя з этыкай, на адпаведнасць слоў і ўчынкаў, на згоднае з Евангеллем жыццё (ChL 34). Усё гэта азначае яснае ўсведамленне мэты і рашучасць у яе дасягненні. Хрысціянін павінен выразна і адназначна вызнаваць першынство этычных каштоўнасцяў у жыцці чалавека над усялякага роду эканамічнымі і матэрыяльнымі каштоўнасцямі. Такое стаўленне – умова праўдзівага і трывалага развіцця.

•

Ёсць вернікі, якія нібы і вераць, практыкуюць веру, але гэта не ўплывае на іх паводзіны: вера і практыкі пабожнасці ідуць адной дарогай, а жыццё – іншаю. Трэба нам узнавіць і будаваць тую асаблівую повязь, якая павінна быць паміж вераю і маральнасцю чалавека і верай ды маральнасцю грамадства. Бо ўсе высілкі да паглыблення і ўзбагачэння веры вымяраюцца, між іншым, учынкамі, якія з яе вынікаюць. Абавязкова патрэбна, каб гэтая паглыбленая і ўзбагачоная вера была выяўлена таксама сталаю хрысціянскай адказнасцю за жыццё жыхароў Беларусі. Нашае сведчанне веры ў грамадстве, у якім мы з'яўляемся меншасцю, павінна быць адважным, бо мы – паўнапраўныя члены і будаўнікі грамадства. Такія адносіны патрабуюць шчырага і цярплівага дыялогу з праваслаўнымі братамі, а таксама сапраўднай рэлігійнай свабоды, якая абапіраецца на ўзаемную павагу і роўнасць правоў.

**Спецыфіка пасланніцтва свецкіх вернікаў**

Пасланніцтва свецкіх вернікаў па сваёй сутнасці атаясамліваецца з жывым і праменным хрысціянскім жыццём. Гэтае жыццё трэба разумець як няспынны ўдзел усіх членаў Касцёла ў рэалізацыі святарскай, прароцкай і валадарскай місіі Хрыста. Выкананне гэтай місіі вызначае спецыфіку пасланніцтва свецкіх.

У дакументах Апостальскай Сталіцы і ў літаратуры сустракаюцца чатыры тэрміны, што апісваюць прадмет дадзенага абмеркаваня: функцыя, годнасць, місія, служэнне ці служба. У гэтым артыкуле ўжываецца тэрмін "місія", а ў цытатах захавана аўтарская тэрміналогія.

***• Удзел у святарскай місіі Хрыста***

Хрыстус, "прагнучы, каб Яго сведчанне і Яго паслуга безупынна трывалі і праз свецкіх людзей..., кожнаму з іх "дае таксама ўдзел у сваёй святарскай функцыі для справавання духоўнага культу, каб Бог быў праслаўлены, а людзі збаўленыя..." (КК 34).

Удзел у святарскай місіі Хрыста Пана – гэта пяднанне ў Ахвяры Хрыста, ахвяры з саміх сябе і ўсіх сваіх учынкаў. Хрысціянін, дзякуючы ўдзелу ў гэтай місіі Хрыста, усё сваё жыццё, ва ўсіх яго вымярэннях, разумее як служэнне Богу і бліжнім (ККК 901). Ён актыўна ўдзельнічае ў кульце, які Касцёл складае Богу: прымаючы ўдзел у падрыхтоўцы літургіі, імшальных чытаннях, у міністранцкай паслузе, у касцёльнай асысце, хоры, дапамагае прыбіраць у святыні і клапоціцца аб яе прыгажосці.

Свецкі вернік рэалізуе сваё прызванне як праз пабожныя практыкі, так і праз звычайнае штодзённае жыццё. У *Дагматычнай Канстытуцыі аб Касцёле* (КК) чытаем: «Бо ўсе ўчынкі, малітвы і апостальскія пачынанні, сямейнае і сужэнскае жыццё, штодзённая праца, адпачынак духа і цела, калі яны адбываюцца ў Духу, і нават жыццёвыя цярпенні, калі яны мужна зносяцца, становяцца духоўнымі ахвярамі, мілымі Богу праз Езуса Хрыста (пар.1 П 2,5)». «Асаблівым чынам у місіі асвячэння ўдзельнічаюць бацькі, «у хрысціянскім духу праводзячы сямейнае жыццё і па-хрысціянску

выхоўваючы дзяцей» (ККП, Кан.230 §3; ККК 902). Заўважым, што апостальства свецкіх заключаецца хутчэй не ў тым, каб шукаць і чыніць надзвычайныя рэчы, але найперш, каб усе справы, якія датычаць чалавечага жыцця, выконваць іначай, – у духу Евангелля, у Духу Хрыста і Яго любові. Бо любоў Хрыста з'яўляецца адзіным вызначальным крытэрыем апостальства, як і ўсяго хрысціянскага жыцця. У *Дэкрэце аб апостальстве свецкіх* (ДА) чытаем: "Усялякая апостальская дзейнасць павінна нараджацца з любові і ў ёй чэрпаць свае сілы..." (ДА 8). [...]

***• Удзел у прароцкай місіі Хрыста***

Удзел у прароцкай місіі Хрыста – гэта прыняцце з верай Евангелля Хрыста і абвяшчэнне яго словам і чынам, усім сваім жыццём. Гэта настаўніцкая і евангелізацыйная функцыя. Другі Ватыканскі Сабор вучыць аб прароцкай місіі апостальства свецкіх вернікаў, што ўсе свецкія адказныя за сведчанне і перадачу веры. Гэтую службу яны выконваюць для Хрыста супольна і ў адзінстве з «іерархіяй, якая навучае ў Яго імя і Яго ўладай» (КК 35). «Хрыстус... выконвае сваё прароцкае заданне... не толькі праз іерархію... але таксама праз свецкіх, якіх Ён з гэтаю мэтай зрабіў сведкамі і надзяліў верай і ласкай слова» (КК 35; ККК 904). Да сведчання жыццём належыць таксама сведчанне словам і тлумачэнне яго. «Сапраўдны апостал шукае нагоды абвяшчаць Хрыста таксама словам: няверуючым, каб іх давесці да веры, і веруючым, каб іх навучыць, умацаваць і заахвоціць да яшчэ больш добрасумленнага жыцця, "бо любоў Хрыста прыспешвае нас» (2 Кар 5, 14). Ва ўсіх сэрцах павінны знайсці водгук гэтыя словы Апостала: «Гора мне, калі я не абвяшчаю Евангелле» (1 Кар 9, 16)" (ДА 6; ДМ 15; ККК 905). Вербальнае звеставанне Добрай Весткі ад аднаго чалавека да другога мае асаблівую каштоўнасць, бо «яно здзяйсняецца ў звычайных варунках, уласцівых свету» (КК 35) там, куды не дасягае прароцкае слова Касцёла.

Асаблівай сферай прароцкай місіі свецкіх вернікаў, паводле вучэння Сабора, з'яўляецца сужэнства і сямейнае жыццё. «Там адбываецца загартоўка ў апостальстве свецкіх і там знаходзіцца яго школа, дзе хрысціянская пабожнасць пранізвае ўсю поўню жыцця і пастаянна перамяняе яго. Там сужонкі знаходзяць сваё пакліканне, якое заключаецца ў тым, што яны павінны быць адзін для аднаго і для сваіх дзяцей сведкамі веры і любові Хрыста» (КК 35). Муж і жонка ажыццяўляюць адзін з найважнейшых бакоў апостальства, калі яны ўзаемна ўмацоўваюць сябе ў веры і гатовыя быць для сваіх дзяцей першымі вестунамі і сведкамі веры. Такім чынам, у сям'і здзяйсняецца найважнейшы пераказ веры, а сама сям'я становіцца «хатнім Касцёлам». [...]

Хрысціянскія сем'і як «хатнія Касцёлы» складаюць таксама важнае сведчанне сваёй веры для свету. Яны гэта робяць, калі пацвярджаюць «сваім жыццём непарыўнасць і святасць сямейнага саюзу, упэўнена і рашуча падкрэсліваюць «права і абавязак бацькоў і апекуноў на хрысціянскае выхаванне дзяцей», бароняць «годнасць і сапраўдную аўтаномію сям'і. Хрысціянскія сем'і даюць свету бясцэннае сведчанне аб Хрысце, калі іх жыццё цалкам адпавядае Евангеллю, і яны даюць прыклад хрысціянскага сужэнства» (ДА 11).

Апрача паклікання да сямейнага жыцця, ёсць таксама пакліканне да служэння ў супольнасцях і асяродках, дзе свецкія людзі праз сведчанне жыццём і словам «могуць і павінны праводзіць каштоўную дзейнасць, якая мае на мэце евангелізацыю свету» (КК 35; ККК 905).

•

Калі паглядзім на гісторыю Касцёла ў цяжкія для яго перыяды, у часы праследу і забароны дзейнасці, то заўважым, што часта вера перытрывала дзякуючы індывідуальнаму апостальству ў сям'і. Індывідуальнае апостальства неабходнае і незаменнае, але гэтаксама патрэбна і калектыўнае апостальства. [...]

«Індывідуальнае апостальства, шчодрай крыніцай якога з'яўляецца праўдзівае хрысціянскае жыццё (пар. Ян 4,14), складае пачатак і ўмову ўсялякага апостальства свецкіх, гэтаксама і калектыўнага, і нельга яго нічым замяніць. Да гэткага роду апостальства, заўсёды і ўсюды плённага, а ў пэўных умовах адзіна прыдатнага і магчымага, пакліканы і абавязаны ўсе свецкія, у любым становішчы, нават калі яны і не маюць здольнасці альбо магчымасці супрацоўнічаць у аб'яднаннях» (ДА 16). У рамках індывідуальнага апостальства вернікі падрыхтоўваюць асобных людзей і групы «да рэлігійнага і каталіцкага жыцця, спосабу мыслення, заахвочваюць іх да частага прыняцця сакрамэнтаў і да пабожнасці, асабліва эўхарыстычнай» (ДА 17). [...]

•

Супольнасць можа зрабіць больш за асобнага чалавека, бо мае адпаведную сілу і ўплыў, а таксама з'яўляецца стымулам да вытрывалай супольнай працы дзеля Хрыста і Касцёла. Гэта вынікае з таго, «што чалавек па сваёй прыродзе – істота грамадская, і што спадабалася Богу злучыць веруючых у Хрыста ў адзіны люд Божы (пар.1 П 2,5 5-10) і аб'яднаць у адно цела (пар.1 Кар 12, 12). Таму калектыўнае апостальства дасканала адпавядае ў роўнай ступені як чалавечым, так і хрысціянскім патрабаванням вернікаў, і таксама з'яўляецца знакам супольнасці і еднасці Касцёла ў Хрысце, які сказаў: «Дзе двое альбо трое сабраліся ў імя Маё, там Я сярод іх» (пар.Мц 18, 20) (ДА 18 пар.Кан.225).

***• Удзел у збаўленчай валадарскай місіі Хрыста***

Удзел у валадарскай місіі Хрыста – гэта служэнне Божаму Валадарству і клопат аб яго пашырэнні. Удзельнічаючы ў ёй, хрысціянін будуе супольнасць з Богам і братамі, сакралізуе, асвячае свет, перамагаючы грэх найперш у сабе самім, а таксама клапоцячыся аб тым, каб на зямлі запанавала валадарства дабра, справядлівасці і любові (пар. ККК 908 і 909).

З валадарскай місіяй Хрыста звязана тэма пастырскага служэння, клопату пра чалавека і свет. Гэта адкрывае перад свецкімі вернікамі шырокае поле дзейнасці. У *Дагматычнай Канстытуцыі аб Касцёле* чытаем: «Бо Пан таксама праз пасрэдніцтва свецкіх верні-

Пакліканне і пасланніцтва свецкіх вернікаў – гэта рэалізацыя на практыцы годнасці і ўдзелу ў місіі Хрыста, якой яны былі абдораны ў Сакрамэнце Святога Хросту. Магчымасць і заданні – незлічоныя. "Свецкія людзі, стаўшы ўдзельнікамі святарскага, прароцкага і валадарскага служэння Хрыста, удзельнічаюць у місіі ўсяго Божага люду ў Касцёле і ў свеце" (ДА 2). Плённасць паклікання залежыць не ад роду і ступені актыўнасці, але ад жыццядзейнага яднання з Хрыстом паводле слоў Пана Езуса: "Хто прабывае ўва Мне і Я ў ім, той прыносіць багата пладоў, бо без Мяне не можаце рабіць нічога" (пар.Ян 15,5; ДА 4).

каў жадае пашыраць сваё валадарства, менавіта валадарства праўды і жыцця, валадарства святасці і ласкі, валадарства справядлівасці, любові і спакою» (36). Папа Павел VI у адгартацыі *Evangelii nuntiandi* напісаў: «Свецкія могуць адчуваць сябе пакліканымі да супрацоўніцтва са сваімі пастырамі ў служэнні для касцельнай супольнасці, для яе развіцця і жыццядзейнасці, выбіраючы разнастайныя паслугі – згодна з ласкаю і харызматамі, якімі іх абдорыць Пан» (п.73; ККК 910).

•

Жаданне працаваць дзеля Валадарства Хрыста можна рэалізаваць у канкрэтнай дзейнасці, штодзённай працы.

*Асноўным месцам удзелу свецкіх у будове Касцёла на Беларусі з'яўляецца парафія.*

Менавіта ў парафіі могуць нараджацца малыя супольнасці з мэтай практыкавання ўчынкаў любові да бліжніх, паглыблення рэлігійных і агульных ведаў, супольнай малітвы.

• Гэта можа мець месца ў працы з моладдзю, з дарослымі, у дапамозе старым, хворым, інвалідам. Дарослыя і моладзь разам могуць, напрыклад, разам арганізаваць пастаянны збор вопраткі, прадуктаў харчавання і г.д. і пастаянна перадаваць іх патрабуючым.

• Таксама разам можна стварыць бібліятэку ці парафіяльную чытальню, рабіць насценную парафіяльную газету, распаўсюджваць рэлігійныя часопісы і добрыя кнігі, арганізоўваць спатканні для абмеркавання цікавага фільма, артыкула альбо кнігі і г.д. (пар. Кан. 229).

• Моладзь, маладыя сужэнствы, адзінокія людзі могуць утвараць групы, якія супольна ў вызначаны час збіраліся б дзеля малітвы ў пастаянных і актуальных інтэнцыях. Іх малітва можа мець розныя формы. Раней была вядомая практыка малітваў пры каплічках і прыдарожных крыжах у маі, а таксама ружанцовая малітва ў сем'ях. Цяпер моладзь і дзеці ахвотна збіраюцца на малітву, інспірацыяй якой з'яўляецца Святое Пісьмо і Святая Літургія.

*Іншымі месцамі ўдзелу свецкіх* з'яўляюцца сферы палітыкі, эканомікі, навукі, тэхнікі і культуры, аховы асяроддзя, абароны годнасці чалавека, з чаго вынікае клопат аб грамадскім і сацыяльным дабры для чалавека і г.д., паколькі «ніякая чалавечая дзейнасць, нават у справах зямных не можа быць вызвалена з-пад улады Бога» (КК 36).

*Калі мы гаворым пра «сферу палітыкі»*, то варта заўважыць наступнае. Слова «палітыка» мае два значэнні. Адно сягае часоў Арыстоцеля (384-322гг. да н. Хрыста) і азначае этыку грамадскага, публічнага, палітычнага жыцця. Другое значэнне, якое пачало дамінаваць ад часу Макіявелі (1469-1527), – гэта палітыка як спосаб здабывання ўлады, тэхніка рэалізацыі ўлады і яе ўтрымання. Касцёл будзе заўсёды займацца палітыкай у першым значэнні гэтага слова – як сацыяльнай этыкай. Па жаданні Касцёла духавенства не займаецца палітыкай у іншым сэнсе (Кан. 287 §2). Тым часам, свецкія вернікі як грамадзяне краіны абавязаны стала ўдзельнічаць у палітыцы ў другім яе значэнні (гл.Кан. 227).

•

Свецкія католікі павінны выкарыстоўваць усе свае магчымасці і здольнасці дзеля праўды, свабоды і любові. «Няхай таксама высока цэняць прафесійную кваліфікацыю» (ДА 4), ставяцца да працы кампетэнтна і з пашанай – як да шляху ўласнага асвячэння. «Няхай цэняць у сабе сямейнае і грамадзянскае пачуццё, а таксама цноты, якія адносяцца да грамадскага жыцця: добрасумленнасць, пачуццё справядлівасці, шчырасць, ветлівасць, сілу духа, без якіх немагчыма весці праўдзівае хрысціянскае жыццё» (ДА 4). У выніку прыходзім да высновы аб неабходнасці кшталтаваць маральныя якасці: імкненне казаць праўду, жаданне жыць у праўдзе.

[...] Валадарства Хрыста – гэта валадарства праўды. Заахвочванне і развіццё ў жыхароў Беларусі любові да праўды, імкнення да праўды, павагі да тых, хто маюць адвагу казаць праўду, з'яўляецца сёння асноўным хрысціянскім заданнем. Без праўды немагчыма трывалае грамадскае суіснаванне і трывалае пастаяннае развіццё.

[...]

*Жыць у праўдзе* – значыць жыць у шчырасці па прыкладзе Хрыста, трываючы ў Яго праўдзе. Такі чалавек пазбягае фальшывага сведчання і крывадушнай прысягі, шануе добрае імя другога чалавека, а таму не судзіць паспешліва, не абмаўляе і не паклёпнічае, пазбягае славалюбства, іроніі, маны.

«Права адкрываць праўду не з'яўляецца безумоўным. Кожны павінен дастасоўваць сваё жыццё да евангельскага прынцыпу братняй любові. У канкрэтных сітуацыях такі прынцып патрабуе прыняць рашэнне, варта адкрываць праўду таму, хто яе жадае, альбо не» (ККК п. 2488). «Любоў і пашана да праўды павінны кіраваць адказам на кожную *просьбу аб інфармацыі альбо адкрыцці праўды*. Дабро і бяспека другога чалавека, павага да прыватнага жыцця, агульнае дабро – дастатковыя прычыны, каб прамаўчаць аб тым, што не павінна быць вядома. Абавязак пазбягаць згоршання часта патрабуе асаблівага захавання таямніцы. Ніхто не абавязаны адкрываць праўду таму, хто не мае права яе ведаць" (ККК 2489).

[...]

Калі ва ўсіх жыццёвых сітуацыях хрысціянін выкарыстоўвае свае таленты і сілы ў Духу Хрыста, то гэткім чынам ён рэалізуе ў свеце Яго клопат аб чалавеку, яго годнасці і непаўторнасці, аб будове салідарнасці і любові, і тым самым рэалізуе свой удзел у Яго валадарскай місіі.

***Кс.Станіслаў Паўліна fDP***

# Аднова сям'і – неабходная ўмова адраджэння веры і Касцёла

2-3 сакавіка ў Баранавічах адбылася Другая Пленарная Сесія Сіноду Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі і Пінскай дыяцэзіі. Тэма гэтай сесіі вельмі актуальная сёння – "Сужэнства і сям'я". Касцёл заўсёды атуляў сям'ю душпастырскім клопатам, аберагаў святасць і непарыўнасць сужэнскага саюза. І сёння ён гэта робіць з яшчэ большаю руплівасцю, каб сям'я ў нашай краіне стала сапраўднай супольнасцю паводле замыслу Божага.

Сесія распачалася ў касцёле Маці Божай Фацімскай Св.Імшой, у якой прынялі ўдзел Яго Эмінэнцыя кардынал Казімір Свёнтэк, святары-ўдзельнікі Сіноду, законныя сёстры, свецкія і шмат вернікаў парафіі. Правіў Св.Імшу Яго Эксцэленцыя нунцый Апостальскай Сталіцы арцыбіскуп Дамінік Грушоўскі. У сваёй гаміліі ён адзначыў небяспеку, якая пагражае сённяшняй сям'і, усяму сучаснаму грамадству і прыгадаў словы Яна Паўла II: "Шляхам да перамогі над гэтым злом з'яўляецца Езус Хрыстус, Яго дактрына і Яго прыклад усеагульнай любові, якая выратоўвае. Ніякая ідэалогія не можа замяніць Яго бязмежную мудрасць і Яго ўладу. Дзеля гэтага неабходна паставіць рэлігійныя каштоўнасці ў сямейныя і сацыяльныя рамкі".



Кардынал К.Свёнтэк, нунцый Апостальскай Сталіцы абп. Д.Грушоўскі, канцлер кс.С.Паўліна на адкрыцці выставы

"Вось чаму неабходна новая Евангелізацыя, аб якой Святы Айцец нагадаў таксама і ў тэлеграме, дасланай на першую сесію працы нашага Сіноду", – адзначыў нунцый.

Пасля Св.Імшы адбылося ўрачыстае адкрыццё сінадальнай выставы, прысвечанай жыццю Касцёла на Беларусі. Адкрылі выставу і сталі першымі яе наведвальнікамі Апостальскі нунцый Дамінік Грушоўскі і кардынал Казімір Свёнтэк.

Пасля прывітальнага слова Яго Эмінэнцыі кардынала Казіміра Свёнтка пасяджэнні Другой Пленарнай Сесіі распачаліся, па традыцыі, малітвай. На першым пасяджэнні сесіі была абвешчана карэспандэнцыя паміж Янам Паўлам II і кардыналам Казімірам Свёнткам. У слове да ўдзельнікаў Сіноду Святы Айцец адзначыў, што "хоча, каб сённяшняя стваральная праца знайшла водгук у сям'і і шлюбе, дапамагла ўмацаванню хатняга ачага ў вялікадушным адданні справе новай Евангелізацыі сучаснага грамадства".

На першым пленарным пасяджэнні сесіі быў абраны прэзідыум пасяджэння, падліковая камісія, абмеркаваны парадак правядзення сесіі і метады працы.

На II пасяджэнні з уводзінамі ў тэму "Сужэнства і сям'я" выступіў кс.Ян Саламон, член Каардынацыйнай Камісіі, які паведаміў прысутным аб падрыхтоўцы праектаў дакументаў, аб выніках працы Каардынацыйнай і рэдакцыйнай камісій, а таксама вызначыў асноўныя часткі праекту асноўнага дакумента сесіі – "Статутаў Сіноду" па тэме "Сужэнства і сям'я".

Пасяджэнне тэматычных секцый адбывалася па пяці асноўных частках праекту "Сужэнства і сям'я": "Божы план адносна сужэнства і сям'і", "Мэта і заданні сям'і", "Падрыхтоўка да сужэнства і заключэнне сужэнства", "Душпастырства сем'яў".

Фрагмент сінадальнай выставы






Удзельнікі II Пленарнай Сесіі Сіноду ў Баранавічах

Удзельнікі кожнай секцыі зрабілі свае прапановы і дапаўненні, пасля чаго распачалося сумеснае абмеркаванне па кожным пункце дакумента.

Пасяджэнне другога дня пленарнай сесіі было цалкам прысвечана абмеркаванню і зацвярджэнню асноўнага дакумента – "Статутаў Сіноду" па тэме "Сужэнства і сям'я". Найбольшая дыскусія вялася вакол пункта 11 другога раздзела "Мэта і заданні сям'і", які датычыў перарывання цяжарнасці і маральнай адказнасці саўдзельнікаў гэтага злачынства. Ажыўленая дыскусія вялася таксама вакол пункта 31 на тэму дзяржаўнай сямейнай палітыкі.

Пасля галасавання па кожным пункце Статутаў дакумент быў прыняты аднагалосна.

У заключэнні сесіі выступіў Яго Эмінэнцыя кардынал Казімір Свёнтэк. Ён падзякаваў усім удзельнікам сесіі за выдатную працу і падкрэсліў, што ёсць відавочны прагрэс у працы Сіноду, нягледзячы на тое, "што даводзілася пачынаць амаль з нуля". "Калі спачатку я рабіў націск на аднаўленне і будаўніцтва касцёлаў, то цяпер гэты акцэнт перайшоў на будаванне ўнутранага духоўнага Касцёла. Уся наша праца, праца Сіноду накіравана на ажыўленне душаў вернікаў, каб зрабіць іх актыўнымі ўдзельнікамі жыцця Касцёла, адраджэння рэлігійнага жыцця краіны".

Другая Пленарная Сесія закончылася адарацыяй Найсвяцейшага Сакрамэнту, гімнам Te Deum і блаславеннем на ажыццяўленне прынятых пастаноў і працяг сінадальнай працы.

## З гаміліі нунцыя Апостальскай Сталіцы арцыбіскупа Daмініка Грушоўскага ў Баранавічах 2 сакавіка:

На асабістым вопыце, як у Славакіі, так і на Беларусі, я магу назіраць, як быў зменены менталітэт людзей у часы камунізму. Нехрысціянскія ідэі перавярнулі вобраз мыслення людзей, стварылі новыя




Падчас працы ў тэматычных секцыях

катэгорыі мыслення. Нельга асуджаць усё агулам, але ўсё павінна быць адноўлена згодна з Евангеллем Хрыста. Гэта будзе новая Евангелізацыя. [...] Усвядомім, якая гэта цяжкая праца, па-чалавечы амаль неверагодна, немагчыма змяніць менталітэт людзей, які фармаваўся дзесяцігоддзямі. Гэта доўгі шлях, які нам адным не прайсці. Таму ўзнікае патрэба Духа Святога, Духа Праўды, Духа Хрыста. Святы Дух здольны змяніць менталітэт людзей.

## З гаміліі Яго Эмінэнцыі кардынала Казіміра Свёнтка ў Баранавічах 3 сакавіка:

Праз сакрамэнт сужэнскі саюз, які будуе сям'ю, набывае рысы вернасці і непарыўнасці... Без фундаменту любові не можа існаваць сапраўдная сям'я. [...] Супольнасць жыцця і супольнасць любові, якою з'яўляецца сям'я, дасягае сваёй паўнаты ў прыняцці і выхаванні новых пакаленняў, новага патомства. Дзеці ў сям'і – гэта дар, Божае благаславенне, а, значыць, – яны з'яўляюцца найбольшаю радасцю бацькоў, сужонкаў. Само адчуванне, усведамленне таго, што даецца жыццё новаму чалавеку, павінна напаўняць бацькоў паўнатою радасці ад выканання Божых намераў, намераў Стварыцеля ўсяго жыцця. Дзіця, як дар, патрабуе ад бацькоў глыбокага перажывання адказнасці за яго. [...] Бацькі, даючы жыццё дзецям, маюць вялікі абавязак выхавання патомства. Мала даць жыццё фізічнае, цялеснае, патрэбна – і гэта святы абавязак бацькоў – даць жыццё духоўнае, забяспечыць яго для сваіх нашчадкаў. З аднаго боку, гэта – абавязак бацькоў, але адначасова – права. Даючы фізічнае жыццё дзіцяці, бацькі маюць права належным чынам выхаваць яго.

*Фотаздымкі а.Я.Глінкі і А.Навікавай*

# Дзень аднаўлення ў Хрысце сужэнстваў і сем'яў Беларусі

***14 сакавіка***
***ў Мінскай архікатэдры Імя Найсвяцейшай Марыі Панны адбыўся Дзень аднаўлення ў Хрысце сужэнстваў і сем'яў Беларусі.***



14 сакавіка. Мінская архікатэдра НМП. Сведчанне сям'і з Магілёва.

З гэтай нагоды прайшло ўрачыстае набажэнства, якое разам з нунцыем Апостальскай Сталіцы Яго Эксцэленцыяй арцыбіскупам Дамінікам Грушоўскім, біскупам Гродзенскім Я.Э. Аляксандрам Кашкевічам, святарамі з усёй Беларусі адслужыў Яго Эмінэнцыя кардынал Казімір Свёнтэк.

Падчас Св.Імшы кардынал абвясціў "Пастырскае пасланне біскупаў Беларусі" на тэму аднаўлення хрысціянскай сям'і і каштоўнасці інстытута сям'і для грамадства. У "Пастырскім пасланні" біскупы звярнуліся да душпастыраў, "творцаў культуры і цывілізацыйных дабротаў", журналістаў, настаўнікаў і выхавацеляў, лекараў, заканатворцаў, – з заклікам шанаваць кожнае жыццё ад моманту яго зачацця, сцерагчы натуральныя правы сям'і, садзейнічаць фармаванню пазітыўнай маралі ў грамадстве і не дапускаць разбурэння традыцыйных каштоўнасцяў.




Удзельнікі Дня атрымалі "Статут правоў сям'і", у якім Каталіцкі Касцёл сфармуляваў прынцыпы хрысціянскай сям'і, правы і абавязкі яе членаў. Гэты Статут Касцёл адрасуе хрысціянам і ўсім людзям добрай волі, а таксама дзяржавам свету як мадэль "асноватворнай ячэйкі грамадства".

Дзень аднаўлення ў Хрысце сужэнстваў і сем'яў адбыўся ў рамках Сіноду Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі і Пінскай дыяцэзіі. Другая сесія Сіноду, якая праходзіла 2-3 сакавіка ў Баранавічах, была прысвечана пытанням жыцця сем'яў у нашай краіне і задачам, што стаяць перад Касцёлам у справе захавання сямейнага дабрабыту.

Падобныя Дні адбудуцца ў кожным дэканаце, а потым – у кожнай парафіі на Беларусі.

***І.С.***

**З інтэрв'ю кс. Эдварда Лоека СМ (дзекана Пружанскага дэканату) нашаму карэспандэнту:**

"Дагэтуль сітуацыя сям'і і сужэнства на Беларусі была з рэлігійнага пункту гледжання цяжкая. Я сам шмат разоў задумваўся над тым, як аднавіць сямейнае жыццё на Беларусі. Як бачым, тут Святы Дух вельмі моцна дзейнічае, праявай чаго ў Касцёле сталі Другая Пленарная Сесія Сіноду і сённяшняя ўрачыстасць. Вялікае значэнне мела сама падрыхтоўка Урачыстага Дня, а таксама ядналне людзей, якія прыехалі.

Выдатным было сведчанне сям'і з Магілёва, якое заахвочвала нас, душпастыраў, прысвячаць больш увагі сем'ям. Мы будзем гэта рабіць і будзем старацца, каб усе сем'і яшчэ больш асвячаліся. Таксама будзем горача маліцца аб адзінстве сем'яў і Божым благаслаўленні для іх".

### З выступлення Гродзенскага біскупа Аляксандра Кашкевіча:



Мэтай нашага сённяшняга спаткання з'яўляецца клопат пра сям'ю і малітва пра аднаўленне яе ў Хрысце. Сітуацыя сям'і – фундамента жыцця і выхавання чалавека – у нашай краіне выклікае ўсеагульны неспакой і патрабуе неадкладнага яе вырашэння ў святле веры. Мінулы час прыніжэння святасці і годнасці сям'і нанёс вялізную шкоду грамадству, установы якога па сваёй сутнасці прызначаны гарантаваць гарманічнае развіццё чалавека, асяроддзя, Касцёла.

Так шмат ран нанесена сям'і – ран крывавых і патрабуючых Лекара! Сённяшняе спатканне сведчыць пра наша жаданне шукаць яго і знайсці ў Езусе Хрысце і ў Яго Святой Сям'і з Назарэту.

Мы верым, што нашыя намаганні з Божай дапамогай прынясуць благаславёны плён. У супрацоўніцтве па гэтым пытанні сем'яў, Касцёла і дзяржавы ўжо закладваецца фундамент лепшай будучыні для маладога пакалення. Выхаваныя ў шчаслівых сем'ях, дзеці здольны пабудаваць шчаслівае заўтра Касцёла і нашай краіны.

### Група "АА" ў Баранавічах

Ужо год дзейнічае ў Баранавічах група Ананімных алкаголікаў, якой апякуюцца айцы вербісты. Каля 40 удзельнікаў групы разам з сваімі жонкамі святкавалі гадавіну яе заснавання 22 сакавіка ў Доме Святой Тройцы місіянераў вербістаў у Баранавічах. Супольнае святкаванне, якое складалася з гутарак і сведчанняў, працягвалася больш як 7 гадзін.

"Мы ведалі, што алкагалізм з'яўляецца адной з найвялікшых бедаў людзей, што жывуць тут. У пошуку шляхоў евангелізацыі і дапамогі нешчаслівым сем'ям мы стараліся даць ім шанец вызваліцца ад алкагалізму праз стварэнне групы "АА", – сказаў а.Ежы Мазур.

Душпастырскую дапамогу групе "АА" аказвае брат Вальдэмар Каліноўскі, які мяркуе стварыць падобныя групы ў іншых парафіях і мясцінах, а таксама праводзіць семінары на тэму вызвалення з алкагалізму. (KAI).

## Крок да аздараўлення

Выдадзеныя мінскім выдавецтвам "Полымя" публікацыі трох польскіх аўтараў: Віктара Асятынскага, Евы Вайдылы і Вітальда Скшыпчыка,– прадстаўляюць праўдзівую інфармацыю аб праблеме алкагалізму і магчымых шляхах яе вырашэння. Тым самым зборнік дапамагае свядома заняць правільную і прынцыповую пазіцыю адносна гэтай надзвычай балючай для беларускага грамадства праблемы.

Першая кніга выдання – "Грех или болезнь?" В.Асятынскага – знаёміць чытачоў з нетрадыцыйным і эфектыўным метадам змагання з невылечнай хваробай алкагалізму. Гэты метад называецца псіхатэрапеўтычнай Праграмай дванаццаці крокаў Ананімных алкаголікаў. Ён прадугледжвае комплекснае лячэнне залежных ад алкаголю пры цесным і плённым супрацоўніцтве медыкаў, псіхолагаў, інструктараў і душпастыраў. Асятынскі расказвае аб тым, што новы метад ускрывае сапраўдную прычыну алкагалізму (а менавіта, эмацыянальную нясталасць) і накіраваны на яе вылячэнне, а не на змаганне з наступствамі. Аўтар таксама апавядае пра гісторыю стварэння і распаўсюджання Руху АА ў 150 краінах свету.

Кніга Евы Вайдылы "Учиться прощать" прысвечана адносінам у сем'ях, закранутых "бедствам 20-га стагоддзя". Базуючы на сваіх ведах і вопыце працы з членамі такіх сем'яў у Цэнтры тэрапіі хімічнай залежнасці ў Варшаве, аўтар сцвярджае, што толькі разуменне сутнасці і прычынаў алкагалізму, а таксама праца са сваякамі хворага, спрыяюць больш хуткаму яго выздараўленню і дапамагаюць вярнуць гармонію і спакой у сямейныя адносіны.

Апошняя кніга зборніка – "Письма" Скшыпчыка – гэта падборка дзіцячых лістоў да бацькоў-алкаголікаў. У ёй – боль і цярпенне, крыўда на несправядлівы лёс. Гэтыя радкі сведчаць пра трагічны ўплыў алкагалізму дарослых на характар і жыццё іх дзяцей.

Прадстаўлены ў зборніку метад не вырашае ўсіх пытанняў і не дае стопрацэнтнай гарантыі вылячэння, але супрацоўнікі Камісіі асветы па алкагольнай і наркатычнай залежнасці ў Мінску ўпэўненыя, што ён дапаможа вырашыць многія жыццёвыя праблемы, звязаныя з алкагалізмам. Паводле звестак Камісіі цяпер на Беларусі тысячы людзей удзельнічаюць у праграме свядомага вызвалення ад алкагольнай залежнасці, асабістага ўзрастання і духоўнага адраджэння.

I.В.



# ПАСТЫРСКАЕ СЛОВА

## БІСКУПАЎ КАТАЛІЦКАГА КАСЦЁЛА НА БЕЛАРУСІ, АБВЕШЧАНАЕ 14 САКАВІКА 1998 ГОДА Ў МІНСКАЙ КАТЭДРЫ ПАДЧАС УРАЧЫСТАГА ДНЯ, ПРЫСВЕЧАНАГА "АДНАЎЛЕННЮ Ў ХРЫСЦЕ СУЖЭНСТВАЎ І СЕМ'ЯЎ БЕЛАРУСІ"

*"Трэба, каб сучасныя сем'і паўсталі, трэба, каб ішлі за Хрыстом"*
**Ян Павел II, Familiaris consortio, 86.**

"*Бог стварыў чалавека на свой вобраз і падабенства; ствараючы яго з любові, стварыў яго адначасова для любові*" (FC 11).

Адным са шляхоў ажыццяўлення паклікання чалавечай асобы да любові з'яўляецца сужэнства. Права чалавека на заключэнне шлюбу і стварэнне сям'і вынікае з закона прыроды.Сужэнскі саюз, называны таксама "сужэнскім прымірэннем", як інстытут закону прыроды, устаноўлены Богам у раі, быў узвышаны Хрыстом да годнасці сакрамэнту.

Сужонкі, дзякуючы сакрамэнтальнай супольнасці жыцця і сужэнскай любові, ствараюць сям'ю як жывую ячэйку люду Божага, і тым самым, як хатні Касцёл, у якім выконваецца асвячэнне яе членаў і будаванне Валадарства Божага. Сужонкі ў сям'і, карыстаючыся ўзаемным "дарам сябе", уяўляюць сабой непарыўную супольнасць. Яе годнасць найглыбей была прадстаўлена ў Лісце да эфесцаў, у якім святы Павел указвае на падабенства супольнасці сужонкаў да паяднання Хрыста са сваім Касцёлам.

Істотнаю рысаю каталіцкага сужэнства з'яўляецца яго еднасць і непарыўнасць – гэтага патрабуе яго натуральны характар, як і яго сакрамэнтальнае вымярэнне. Святы Айцец Ян Павел II у сваёй адгартацыі "Familiaris consortio" піша: "Сужэнская камунія характарызуецца не толькі сваёю еднасцю, але таксама сваёю непарыўнасцю" (20). Менавіта гэтая еднасць і непарыўная сужэнская вернасць складаюць аснову і гарантыю трываласці сям'і.

Сэнс сям'і, як супольнасці, надае "жыццё", разуметае не толькі ў зямным, часовым, вымярэнні. Бо жыццё чалавека, як удзел у жыцці Створцы, робіць здольнымі сужонкаў да ўдзелу і да перадавання жыцця новым пакаленням. Новае жыццё, якім з'яўляецца дзіця, што прыходзіць на свет, – плод сужэнскага сужыцця, – прыпамінае Хрыстовую перамогу жыцця над смерцю, паколькі кожныя "народзіны дзіцяці – гэта прыкметы жыцця" (Ян Павел II. *Ліст да сем'яў*, 11.)

Сям'я як супольнасць жыцця і любові, дасягае сваёй паўнаты ў прыняцці і выхаванні новых пакаленняў. Прысутнасць дзяцей у сям'і – гэта дар Божы, а таксама і найбольшая радасць для бацькоў. Дзіця, як дар, з'яўляецца таксама і заданнем, якое патрабуе ад бацькоў глыбокага пачуцця адказнасці і ў прыняцці, і ў апецы над патомствам. Святы Айцец Ян Павел II у адным з казанняў, прамоўленых на Кубе, нагадаў, што "Бацькі, даючы жыццё дзецям, маюць вялікі абавязак выхавання патомства, таму яны павінны быць прызнаныя першымі і галоўнымі выхаваўцамі сваіх дзяцей (...), бо гэта – іх абавязак і неад'емнае права" (*З гамілії на Кубе*).

Папа Ян Павел II адзначае, што "У гэты гістарычны момант, калі сям'я з'яўляецца аб'ектам атакі з боку шматлікіх сілаў, якія хацелі б знішчыць яе, альбо, прынамсі, дэфарміраваць, Касцёл свядомы таго, што дабро грамадства і яго ўласнае звязана з дабром сям'і, мацней і больш адказна адчувае сваё пасланніцтва абвяшчаць усім Божы замысел, які датычыць сужэнства і сям'і, запэўніваючы ім поўную зычлівасць, чалавечае і хрысціянскае развіццё, а таксама такім чынам садзейнічаючы аднове грамадства і люду Божага"(FC 3).

У часе другой пленарнай сесіі нашага Сіноду мы яшчэ больш усвядомілі патрэбу працы над зменаю свядомасці людзей адносна падставовай ролі сям'і і жыцця чалавека ў грамадстве, а таксама, што дабро грамадства і Касцёла звязана з дабром сям'і. Таму трэба, каб сям'я мела моцную падтрымку як ў дзяржаве, так і ў Касцёле.

Касцёл перадусім навучае, што ўсе сужонкі пакліканы да святасці ў сужэнстве па волі Бога, а таксама адкрыта і настойліва Касцёл бароніць правы сям'і і пастаянна іх нам нагадвае.

Таксама сёння, у гэты ўрачысты дзень, прысвечаны "Аднаўленню ў Хрысце сужэнстваў і сем'яў на Беларусі", праз паслугу сабраных у гэтай катэдры ўсіх біскупаў, святароў, законнікаў, законніц, працуючых на Беларусі, дэлегацый ўсіх дэканатаў каталіцкага Касцёла гэтай дзяржавы ён нагадвае аб тым, што заключана ў "Статуце правоў сям'і", прэзентацыю якога мы ў гэты момант абвяшчаем, а менавіта:

• права на існаванне і развіццё сям'і, – гэта значыць, права кожнага, таксама і ўбогага чалавека, на стварэнне сям'і і на валоданне адпаведнымі сродкамі для яе забеспячэння;

• права на выкананне ўласнай адказнасці ў межах перадавання жыцця і выхавання дзяцей;

• права на інтымнасць сужэнскага і сямейнага жыцця;

• права на пастаянства сувязі і інстытута сужэнства;

• права на вызнаванне ўласнай веры і на яе абарону;

• права на выхаванне дзяцей паводле ўласнай традыцыі і рэлігійных і культурных каштоўнасцяў пры дапамозе неабходных сродкаў, прыладаў і інстытутаў;

• права на атрыманне фізічнага, грамадскага, палітычнага, эканамічнага забеспячэння, асабліва для ўбогіх і хворых;

• права на жыллё, якое давала б магчымасць стварыць годнае сямейнае жыццё;

• права на абарону непаўналетніх ад парнаграфіі, алкагалізму, наркаманіі адпаведнымі арганізацыямі і заканадаўствам;

• права пажылых асобаў на годнае жыццё і на годную чалавека смерць. (FC).

Умілаваныя!

Вельмі неабходна і неадкладна трэба, каб кожны чалавек добрай волі быў заангажаваны ў высакародную справу ратавання і дапамогі сем'ям, якія патрабуюць асаблівай апекі і клопату.

Таму, як пастыры каталіцкага Касцёла на Беларусі мы заклікаем вас, дарагія сужонкі, дарагія сем'і, давайце сведчанне, што вы – людзі веруючыя. Не перастаньце маліцца ў інтэнцыі сужэнстваў і сем'яў, якія жывуць на Беларусі.

Дапамажыце тым, хто жыве ў грамадзянскім сужэнскім саюзе, каб яны ўладзілі гэтую справу перад Богам у супольнасці вернікаў, каб прынялі моц Божую для выканання сваіх такіх адказных заданняў. Дапамагайце пакінутым маці, якія чакаюць патомства. Беражыце мацярок ад забойства дзіцяці, якое яны носяць пад сваім сэрцам!

Вас, душпастыры і кансэкраваныя асобы, заклікаем: ахоплівайце гуманітарнай апекай мнагадзетныя сем'і. Стварайце "Сужэнскія кансультацыі" і наладжвайце ў іх працу.

Набліжайце ідэю "Хатняга Касцёла". Фарміруйце сумленне і пазіцыю шацунку да кожнай чалавечай асобы з моманту яе зачацця. Садзейнічайце таму, каб сем'і былі моцныя Богам!

Вас, творцы культуры і цывілізацыйных дабротаў, заклікаем: надалей садзейнічайце дасканаленню жыхара гэтай зямлі, каб ён развіваў розныя здольнасці свайго духа і цела, робячы больш чалавечым грамадскае жыццё як ў сям'і, так і ўва ўсёй дзяржаўнай грамадскасці.

Вас, тых, хто працуе ў сродках масавай інфармацыі, просім: фарміруйце грамадскую думку на карысць маці, якая ў духу адказнасці за біялагічную трываласць народу прымае кожнае зачатае дзіця. Абвяшчайце, што зачатае жыццё з'яўляецца каштоўнасцю, пра якую з любоўю павінна клапаціцца ўсё грамадства. Абараняйце правы сям'і. Не навязвайце амаральных і антымаральных мадэляў жыцця, якія супярэчаць хрысціянскім асновам і хрысціянскім спосабам вырашэння сужэнскіх і сямейных праблемаў. Не распаўсюджвайце бессаромнасці, цынізму, разбэшчанасці, па-за сужэнскага сексуальнага жыцця!

Вас, настаўнікі і выхавацелі, заклікаем: закладвайце трывалыя асновы грамадскага парадку, ствараючы кампетэнтную думку пра зачатае дзіця, абуджаючы ў вучнях пашану, і нават захапленне кожнай чалавечай істотай, выхоўваючы ў моладзі адказную сужэнскую любоў. Выступайце супраць розных формаў парнаграфіі!

Вас, працаўнікі службы аховы здароўя, просім: служыце жыццю. Адмоўцеся ад усялякіх маніпуляцый на чалавечым эмбрыёне, бо гэта – парушэнне права на фізічную непарушнасць і супярэчыць дабру сям'і!

Вас, тых, хто стварае заканадаўства, дзеля дабра грамадства, дзеля будучыні Беларусі заклікаем: праводзьце палітыку на карысць сям'і. Шукайце спосабаў, каб выправіць сацыяльную і эканамічную сітуацыю мнагадзетных сем'яў, сем'яў з дзецьмі-калекамі. Маладым сем'ям дапамагайце знайсці ўласнае памяшканне, каб яны маглі ствараць сямейныя, дзяржаўныя, патрыятычныя і рэлігійныя традыцыі, каб бачылі бліжэйшую і перспектыўную мэту свайго жыцця, напоўненага працай!

З гэтым шчырым заклікам ў рэкансэкраванай святыні, якая з'яўляецца знакам мінулага і знакам новага жыцця нашага грамадства, мы звяртаемся да ўсіх людзей добрай волі: супольна будуйма новую вялікую гісторыю! Углядаймася ў будучыню: няхай наш свет, які давераны чалавеку і які ўваходзіць у новае тысячагоддзе, становіцца ўсё больш чалавечным і справядлівым! Працуйма на карысць трываласці сужэнстваў і сем'яў! Станем на абарону кожнага жыцця дзеля светлай будучыні нашай дзяржавы!

Езусу, Марыі і Юзафу аддаем у апеку кожную сям'ю Беларусі.

Запэўніваем у нашай пастаяннай малітве.

Усім і кожнаму паасобку ад усяго сэрца ўдзяляем пастырскае благаславенне ў Імя Айца і Сына і Духа Святога. Амэн.

***Кардынал Казімір Свёнтэк,***
*Арцыбіскуп, Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі,*
*Апостальскі Адміністратар Пінскай дыяцэзіі*

***Біскуп Аляксандр Кашкевіч,***
*дыяцэзіяльны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі*

# Прымірэнне — шанец для Афрыкі і задача Касцёла

*Працяг. Пачатак на с.1.*

Нігерыйскі епіскапат налічвае 52 біскупы. У краіне ёсць 40 дыяцэзій, аб'яднаных у 9 мітраполій. Касцёл у Нігерыі ўтрымлівае 134 шпіталі, 201 лякарню, 22 лепразорыі і 69 дзіцячых прытулкаў.

У наступнай частцы сваёй прамовы Папа рашуча выказаўся супраць насілля, звяртаючы ўвагу на тое, што *яно не перастае прыносіць страты і беды некаторым народам Афрыкі.* Святы Айцец выказаў спадзяванне, што дзякуючы далейшай дапамозе адказных асобаў за мір у Афрыцы будзе магчымым вяртанне да канстытуцыйнага парадку, *а дэмакратычныя свабоды адкрыюць дарогу да новага перыяду аднаўлення і развіцця.*

Увечары першага дня візіту адбылася сустрэча Яна Паўла II з прэзідэнтам Нігерыі генералам Сані Абахам. Генерал Абах, які захапіў уладу ў выніку ваеннага путчу ў 1993г. і з гэтага часу захоўвае дыктатарскі лад у гэтай найбольш населенай краіне Афрыкі, абвясціў свабодныя выбары, што павінны адбыцца сёлета ўвосень, і ўвядзенне такім чынам дэмакратычнай сістэмы кіравання. Пытанне рэлігійнай свабоды таксама было адной з тэмаў размовы Яна Паўла II з кіраўніком нігерыйскай краіны. Важнейшым момантам першага дня візіту Папы стаў яго заклік, накіраваны праз сакратара Стану кардынала А.Садано да С.Абаха, аб вызваленні палітычных вязняў.

На наступны дзень, 22 сакавіка, Папа прыбыў у горад Анітша, што на ўсходзе Нігерыі. На вялікай плошчы горада сабралася каля 2 млн. вернікаў, каб удзельнічаць у беатыфікацыйнай Імшы айца Кіпрыяна Міхала Івэна Танзі, аднаго са стваральнікаў Касцёла ў Нігерыі. Гэты нігерыйскі святар, які жыў у 1903-1964гг., карыстаўся вялікай папулярнасцю як душпастыр у дыяцэзіі Анітша, дзе ён працаваў 13 гадоў.

Гаворачы пра новага благаслаўёнага, Святы Айцец у гаміліі падкрэсліў, што Кіпрыян Міхал Івэн Танзі – *першы плён святасці, які з'явіўся і выспеў у Касцёле Нігерыі з часоў першага абвяшчэння Евангелля на гэтай зямлі.* Новы благаслаўёны быў чалавекам Бога, які доўгія гадзіны праводзіў перад Найсвяцейшым Сакрамэнтам, а таксама чалавекам народу, бо заўсёды наперадзе сябе ставіў іншых і асаблівае значэнне надаваў душпастырскай працы з сем'ямі. *Вялікую ўвагу ён прысвячаў падрыхтоўцы сужэнстваў да як мага лепшага прыняцця сакрамэнту і абвяшчаў важнасць цнатлівасці,* – падкрэсліў Папа. Гэты афрыканскі святар, які большасць свайго жыцця правёў у парафіі, зрабіў такі вялікі ўплыў на вернікаў, што нават праз 50 гадоў яны могуць паўтарыць цэлыя фрагменты яго казанняў.

Папа нагадаў, што тры гады таму падчас Спецыяльнага Сіноду Біскупаў для Афрыкі іерархі з гэтага кантыненту казалі, што афрыканскі Касцёл *праз сведчанне сваіх сыноў і дачок павінен стаць месцам сапраўднага паяднання [...] Цяпер я жадаю абвяшчаць сэнс паяднання Бога і людзей паміж сабой, бо гэта заданне, якое стаіць перад Нігерыяй, перад афрыканскім кантынентам, а таксама перад кожным народам ва ўсім свеце,* – сказаў Папа. Закранаючы цяперашнюю сітуацыю ў краіне і на кантыненце, ён падкрэсліў, што паяднанне з Богам датычыць не толькі паасобных людзей, але таксама кожнай супольнасці: сем'яў, народнасцяў, плямёнаў, народаў і дзяржаў. Заклікаючы ўсіх нігерыйцаў да вялікага народнага паяднання, Папа адзначыў, што яно павінна *азначаць прымірэнне з адрозненнямі, спыненне этнічнага суперніцтва і прывіццё павагі, плённасці і кампетэнтнасці ў здзяйсненні ўлады.* Ён дадаў, што *паяднанне з'яўляецца шляхам да сапраўднага спакою і развіцця Нігерыі і Афрыкі.*

*Цяпер Бог заключыў новы і апошні саюз з усім чалавецтвам праз Езуса Хрыста, які паяднаў паасобных мужчын і жанчын, таксама як і цэлыя народы з Богам праз сваю Муку, смерць і Змёртвыхпаўстанне,* – адзначыў Ян Павел II.

Асаблівую ўвагу Папа звярнуў на сацыяльныя праблемы. Ён заклікаў нігерыйцаў пазбягаць *усяго, што абражае годнасць чалавечай асобы*

*альбо парушае правы чалавека* і падкрэсліў, што *нельга дапускаць запалохвання і злоўжывання ўладай адносна слабых і ўбогіх дзеля самавольнага выключэння асобаў і цэлых груп з палітычнага жыцця, злоўжывання аўтарытэтам і заганнага выкарыстання ўлады.*

Увечары другога дня візіту ў апостальскай нунцыятуры адбылася сустрэча Папы з мусульманскімі лідэрамі краіны. Святы Айцец звярнуўся да іх з прамовай. Гэта сустрэча мела надзвычайнае значэнне з пункту гледжання канфесійнай сітуацыі ў краіне. 45% усяго 104-мільённага насельніцтва Нігерыі з'яўляюцца мусульманамі, яшчэ 15% вызнаюць розныя анімістычныя культы, менш за 40% жыхароў краіны хрысціяне, з іх каля 12 млн. – каталікі. У 1982г., падчас папярэдняга падарожжа Папы ў Нігерыю, мусульманскія лідэры адмовіліся сустрэцца са Святым Айцом. Ісламска-хрысціянскія ўзаемаадносіны ў Нігерыі цяпер характарызуюцца адноснай стабільнасцю. У 80-х гадах у краіне адбыліся крывавыя сутыкненні ісламскіх фундаменталістаў і хрысціянаў, пераважна пратэстантаў.

Ян Павел II заклікаў лідэраў ісламскай супольнасці аб яднанні намаганняў з каталікамі дзеля пераадолення перашкодаў, якія стаяць на шляху да дэмакратычнага ладу, у т.л. барацьбы з карупцыяй, насіллем і эгаістычным выкарыстоўваннем улады.

Падчас Святой Імшы 23 сакавіка ў сталіцы краіны Святы Айцец звярнуў увагу на ролю сям'і ў грамадскім жыцці Нігерыі і ўсёй Афрыкі, а таксама заклікаў шанаваць сакральны характар сям'і. Літургія, у якой удзельнічала некалькі соцень тысяч вернікаў, была галоўным пунктам праграмы трэцяга, апошняга дня пілігрымкі Папы ў Нігерыю.

Ян Павел II падкрэсліў таксама вялікае значэнне правоў чалавека, якіх ніхто не павінен быць пазбаўлены, бо яны глыбока ўкаранёныя ў праўдзівай прыродзе чалавечай асобы, а таксама адлюстроўваюць аб'ектыўныя і неад'емныя патрабаванні ўсеагульнага маральнага права. *Павага да кожнай чалавечай асобы, да яе годнасці і правоў, заўсёды павінны быць інспірацыяй і галоўным правілам для вашых намаганняў дзеля развіцця дэмакратыі і ўмацавання грамадскага здароўя вашай краіны,* – адзначыў Святы Айцец.

Падчас сустрэчы з нігерыйскімі біскупамі Ян Павел II прадставіў праграму духоўнай адновы краіны.

Задача Касцёла – не толькі духоўны клопат пра вернікаў, але і ўдзел у служэнні ўсяму нігерыйскаму грамадству. Таму вельмі важна даваць сведчанне сапраўднага хрысціянскага жыцця, асабліва тымі, хто з'яўляецца пасланцом Добрай Весткі, – заўважыў Святы Айцец.

Папа выказаў радасць, што павялічваецца колькасць святарскіх і законных пакліканняў, і нагадаў, што ў Нігерыі цяпер навучаецца 3 тыс. семінарыстаў. Яны павінны памятаць, – перакананы Папа, – што святарскае жыццё патрабуе глыбокай духоўнай фармацыі і нястомнага асабістага навяртання, а цэлібат з'яўляецца дарам, які трэба старанна захоўваць.

Адным з прыярытэтаў новай евангелізацыі, што было вызначана таксама Спецыяльным Пасяджэннем Сіноду Біскупаў для Афрыкі, з'яўляецца евангелізацыя сем'яў. Яна абапіраецца на несумненны факт, што сужэнства і сям'я – гэта нармальны шлях да святасці для большасці веруючых.

Сямейныя каштоўнасці неабходна прывіваць моладзі, якой таксама трэба дапамагаць пераадольваць перашкоды на шляху развіцця. Такімі перашкодамі могуць быць непісьменнасць, беспрацоўе, бяздзейнасць і наркотыкі. Маладым людзям трэба дапамагаць як мага раней адкрываць каштоўнасць дару з саміх сябе, што з'яўляецца асновай дасягнення асабістай сталасці, – падкрэсліў Ян Павел II.

23 сакавіка Святы Айцец вярнуўся ў Апостальскую Сталіцу. (Паводле КАІ).

Буйнейшыя ў свеце мас-медыя засярodзілі сваю ўвагу на палітычным значэнні пілігрымкі Святога Айца ў Нігерыю. Гэта краіна жыве ва ўмовах ваеннай дыктатуры... Каталікаў у Нігерыі параўнальна няшмат, больш чым 100-мільённае насельніцтва вызнае іслам, хрысціянства і анімізм. Большасць нігерыйцаў, аднак, звязвае з візітам Папы надзеі на паляпшэнне ўнутранага становішча ў гэтай падзеленай этнічна-палітычнымі канфліктамі краіне. Ян Павел II прыносіць у Нігерыю тое ж важнае пасланне аб міры, паяднанні, справядлівасці і правах чалавека... Нігерыя не пралічыцца, як не пралічылася і Куба. Папа не купляецца і не прадаецца ні для левай, ні для правай дыктатуры.

***Адам Ваксман,***
*"Tygodnik Powszechny"*

# Новыя благаславёныя Касцёла

15 сакавіка Ян Павел II беатыфікаваў трох чалавек: Брыгіту ад Езуса Марэлло (1610-1679), заснавальніцу Закона сясцёр уршулянак ад Марыі Беззаганнай, Марыю дэль Кармэн Сальчэс (1848-1912), заснавальніцу Закона сясцёр канцэпцэаністак-місіянерак асветы, і балгарскага біскупа Яўгенія Базілкова. Асоба апошняга заслугоўвае асаблівай увагі.

Нарадзіўся Базілкоў 29 кастрычніка 1900 г. у балгарскай каталіцкай сям'і. Ва ўзросце 11 гадоў паступіў у ніжэйшую семінарыю аа.пасіяністаў. Там адкрыў сваё пакліканне да законнага жыцця. Як здольнага семінарыста яго хутка заўважылі і скіравалі на вучобу спачатку ў Бельгію, а пасля ў Галандыю, дзе ён вывучаў рыторыку, філасофію і тэалогію. Святарскае пасвячэнне Базілкоў атрымаў у ліпені 1926 г. Праз шэсць гадоў абараніў доктарскую працу на тэму "Унія балгараў з рыма-каталіцкім Касцёлам у першай палове XIII стагоддзя". Пасля ў сваёй душпастырскай працы кс. Базілкоў неаднойчы будзе звяртацца да справы паяднання гэтых двух братніх Цэркваў.

Калі Я.Базілкоў вярнуўся пасля вучобы на радзіму, яго прызначылі сакратаром біскупа Нікаполіс, а ў 1934 г. – пробашчам у каталіцкай вёсцы Бардарскі Геран. Ён быў незвычайным пробашчам. Заняўся не толькі душпастырскай апекай сваіх парафіянаў, катэхізуючы дзяцей, моладзь і дарослых, але яшчэ стварыў два хоры – 100-асабовы мужчынскі і 50-асабовы змешаны. Сам іграў харыстам на арганах, пісаў уласныя творы. Зрабіў футбольнае поле, а вясковая каманда штогод займала прызавыя месцы ў нацыянальнай лізе. Святар арганізаваў мужчынскую і жаночую баскетбольныя каманды, заснаваў мясцовую радыёстанцыю. Падчас яго паслугі ў гэтай невялічкай вёсцы дзейнічалі дзве пачатковыя школы.

Пасвячэнне кс.Базілкова на біскупа дыяцэзіі Нікаполіс адбылося 7 кастрычніка 1947 г., калі камуністычныя ўлады вельмі моцна пераследвалі каталіцкі Касцёл Балгарыі. У гэтым годзе камуністы канфіскавалі ўсю касцёльную маёмасць, а замежных місіянераў прымусілі пакінуць краіну. У 1948 г. улады дазволілі бп. Базілкову выехаць у Італію і Галандыю, дзе ён меў магчымасць застацца. Ён доўга не мог прыняць рашэнне, але ўрэшце вырашыў вярнуцца, каб дзяліць з сваёй паствай цяжкі лёс змагання за веру. Арыштавалі біскупа 16 ліпеня 1952г. Уладам не ўдалося схіліць Базілкова, каб ён стварыў падпарадкаваны камуністам балгарскі каталіцкі Касцёл. Пасля некалькіх месяцаў следства бп.Базілкоў быў асуджаны на смерць разам з іншымі святарамі, законнікамі і свецкімі вернікамі.

Забойства бп.Базілкова было вялікай стратай для Касцёла Балгарыі. Яго шанавалі таксама і праваслаўныя землякі. У асобе балгарскага біскупа Касцёл упершыню беатыфікаваў ахвяру сталінскага пераследу католікаў. (KAI)

## Папа пра годнасць жанчыны

"Жанчын раней шмат ацэньвалі і далей ацэньваюць хутчэй паводле фізічных рысаў, чым па асабістых здольнасцях, прафесійнай кампетэнтнасці, інтэлектуальных дасягненнях, багацці пачуццяў і, зрэшты, з увагі на саму годнасць іх існавання", – заўважыў Папа ў разважаннях перад малітвай Анёл Панскі 8 сакавіка. Звяртаючыся да тэмы Дня жанчын, Ян Павел II прызнаў, што "цяжкі шлях жанчын, якія часам пазбаўлены годнасці, правамі якіх грэбуюць і якіх адсоўваюць на другі план жыцця", а таксама выказаў пажаданне, "каб нарэшце была прызнана поўная роўнасць годнасці жанчыны, а таксама каштоўнасць яе асаблівых здольнасцяў". (TP).

## Новыя кардыналы

21 лютага падчас урачыстай літургіі слова Папа ўсклаў бярэты 20 новапрызначаным кардыналам. Сярод іх – грамадзяне 12 краін. Значная частка кардыналаў – італьянцы: іх сямёра, два амерыканцы і па адным прадстаўніку трох еўрапейскіх краін (Аўстрыі, Францыі і Польшчы), а таксама абедзвюх Амерык, Афрыкі і Азіі.

Цяпер кардынальская калегія налічвае 167 членаў. (KAI).

## Дакумент на тэму пераследу габрэяў

У Ватыкане 16 сакавіка была прадстаўлена дэкларацыя "Памятайма: разважанне аб шоах (г.зн. генацыдзе габрэяў.– *Заўв. рэд. КН*)", падрыхтаваная Камісіяй па рэлігійных кантактах з юдаізмам. Дакумент абапіраецца на выніку канферэнцыі аб хрысціянскіх каранях антысемітызму, якая ў лістападзе мінулага года адбылася ў Ватыкане (гл. матэрыялы мінулага нумара КН. – *Заўв. рэд. КН*). Дэкларацыя суправаджаецца лістом Папы, у якім Ян Павел II адзначыў, што знішчэнне габрэяў – гэта незмывальная пляма ў гісторыі нашага стагоддзя. Выдадзены Апостальскай Сталіцай дакумент павінен дапамагчы залечванню старых ран непаразумення і несправядлівасці, а таксама ў будаванні будучыні, дзе такое жахлівае злачынства, як генацыд, ужо ніколі не паўторыцца.

"Ці ёсць у дакуменце просьба аб прабачэнні?" – запытаў адзін з журналістаў. "Там ёсць нашмат больш, – адказаў кардынал Касідзі, кіраўнік Камісіі па рэлігійных кантактах з юдаізмам. – Там гаворыцца пра неабходнасць пакаяння, навяртання, шкадавання". Кардынал падкрэсліў, што абвешчаны дакумент не з'яўляецца канчатковым словам Касцёла на тэму генацыду габрэяў, але ўяўляе сабой этап на шляху да паразумення і паяднання, пачаткам якога была дэкларацыя *Nostra Aetate* Другога Ватыканскага Сабору. (KAI).

## АЎСТРЫЯ

### Касцёл супраць разводаў без канкрэтнай віны

Біскуп К. Кюнг, адказны ў Канферэнцыі Аўстрыйскага Епіскапату за сем'і, выказаўся супраць праекту новага закону аб разводах, з якога было б выкінута абгрунтаванне віны аднаго з бакоў. На думку біскупа, аблягчэнне разводаў будзе мядзведжай паслугай для грамадства і безадказнасцю ў адносінах да людзей. Кюнг сцвярджае, што калі справа даходзіць да разводу без узаемаразумення, то закон павінен абараняць слабейшага і нявіннага. Чым лягчэй будзе атрымаць развод, тым больш безабаронным будзе адзін з сужонкаў і яго дзеці. Развод ніколі не з'яўляўся чымсьці станоўчым, бо заўсёды прыносіў з сабою боль, хоць рабіўся са згоды абодвух бакоў. Не трэба аднак забываць аб тым, што ў выніку гэтага найбольш церпяць дзеці.

Касцёл быў першай інстытуцыяй, якая апрацавала ўласную праграму дапамогі дзецям і моладзі ў падрыхтоўцы да разводу бацькоў. З гэтай мэтаю Касцёл хоча прапанаваць семінары для сужэнстваў, каб дапамагчы ўмацаваць саюз не толькі у крытычных выпадках. Такую ахоўную функцыю сям'і павінна ўзяць на сябе і заканадаўства. (KAI).

## ХАРВАТЫЯ

### Угодкі Радыё Марыя

Першыя ўгодкі працы адзначыла харвацкае Радыё Марыя. З гэтай нагоды галоўны рэдактар радыёстанцыі кс.Нед'елка Слішкавіч адслужыў спецыяльную Св.Імшу. Сваю гадавіну Радыё Марыя адзначыла святочнай праграмай з удзелам слухачоў. Праграма доўжылася цэлы дзень.

Гэта радыёстанцыя стала першай у Харватыі некамерцыйнай радыёстанцыяй, якая спецыялізуецца на рэлігійных праграмах. Узорам для яе і ініцыятарам стварэння было італьянскае Радыё Марыя, якое дзякуючы свайму вопыту дапамагала з'яўленню падобных радыёстанцый з такой жа назвай у іншых краінах Еўропы.

Разам з некамерцыйным характарам важнай асаблівасцю Радыё Марыя з'яўляецца валанцёрства (г.зн. добраахвотная бясплатная праца), якое стала практычна выключнай формай супрацоўніцтва з гэтай станцыяй. Напачатку яе дзейнасць падтрымлівала звыш ста валанцёраў.

Працягласць працы Радыё Марыя спачатку абмяжоўвалася толькі некалькімі гадзінамі, але пазней павялічылася на цэлы дзень. 10 гадзін займаюць размоўныя праграмы (катэхезы і дыскусіі), астатні час – музыка і забаўляльныя праграмы.

Кс.Слішкавіч і дырэктар станцыі Іван Рэлькавіч у інтэрв'ю адзначылі, што радыёстанцыя застаецца вернай свайму лозунгу: «Радыё Марыя – хрысціянскі голас у тваім доме», бо з'яўляецца штодзённай духоўнай падтрымкай для людзей любога ўзросту і становішча, асабліва для тых, хто ў бядзе альбо перажывае духоўнае змаганне, а таксама для тых, каго Радыё Марыя заахвоціла жыць у супольнасці і супольна ўзрастаць у веры». (KAI/IKA).

## КУБА

### На Кубе дысідэнты не бачаць зменаў

Кубінскія палітычныя дысідэнты лічаць, што пасля візіту на Кубу Папы Яна Паўла II не адбылося ніякіх сур'ёзных зменаў. Прадстаўнік апазіцыйнай "Рады для Кубы" Л.А.Альмагра лічыць, што вызваленне па просьбе Папы 90 палітычных вязняў і 200 асуджаных за крымінальныя злачынствы з'яўляецца "станоўчым, але недастатковым крокам на шляху пераменаў". Большасць вязняў сумлення дагэтуль пазбаўлены свабоды, – лічыць Альмагра. Ён падкрэсліў, што ў крымінальным кодэксе працягваюць існаваць такія паняцці, як "варожая прапаганда", "пагроза для грамадства" і "распаўсюджванне ілжывай інфармацыі". Гэта дае магчымасць дзяржаве пераследваць іншадумцаў. (KAI/KNA).

## ЧЭХІЯ

### Біскупы асудзілі расізм

У лісце епіскапату, які быў прачытаны ва ўсіх касцёлах Чэхіі, біскупы гэтай краіны асудзілі нядаўнія акты насілля ў адносінах да цыганаў. У лісце адзначаецца, што хрысціяне стаяць перад пытаннем, якое задае прыпавесць пра міласэрнага самараніна. І Бог, і свет, і людзі чакаюць сведчання іх веры. Гэта часта патрабуе гераізму і рызыкі, нават можа быць небяспечным. Абыякавасць у такіх сітуацыях азначае саўдзел і ціхую падтрымку злачынства, – падкрэслілі пастыры чэшскага Касцёла і звярнулі ўвагу на неабходнасць праявы салідарнасці хрысціянаў з цыганскай абшчынай.

У 10-мільённай Чэхіі колькасць цыганаў складае 300 тыс. чалавек. Большасць з іх ахрышчаны, але не практыкуюць веру. Пры Чэшскай Канферэнцыі Біскупаў дзейнічае Камісія па справах душпастырства цыганаў, таксама ў многіх дыяцэзіях існуюць пункты дапамогі і кансультацыі, мэта якіх дапамагчы цыганам прыстасавацца да патрабаванняў жыцця ў чэшскім грамадстве. (KAI).

